Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

2 жніўня 1997 года
СУБОТА
№ 37
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Кармы ёсць – пасада будзе. Кармоў няма – пасаду адбяруць

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Здаецца, Івацэвіцкі райвыканкам на поўным сур'ёзе ўступіў у бітву за нарыхтоўку кармоў для грамадскай жывёлагадоўлі. На нядаўнім пасяджэнні тут канстатавалася, што сёлета корманарыхтоўчая кампанія вядзецца незадавальняючымі тэмпамі, і па стану на 21.07.97 года назапашана па 8 ц. кармавых адзінак на ўмоўную галаву, што на 1,4 ц. кармавой адзінкі менш, чым на адпаведны перыяд мінулага года. Старшыняў гаспадарак абвінавацілі у праліках у арганізацыі і кіраванні нарыхтоўкай кармоў і, што называецца, моцна "стукнулі кулаком па сталу. Кіраўнікоў калгасаў „40 год Кастрычніка", „Іскра", „Пагор'е", „Бусяжскі", „Радзіма", э/б „Майск" папярэдзілі, што, калі кіруемыя імі корманарыхтоўшчыкі не змогуць да 10 жніўня г. г. назапасіць кармоў у адпаведных аб'ёмах мінулага года, то кантракты з імі будуць скасаваны.

За пралікі ў арганізацыі нарыхтовак кармоў старшыням калгасаў імя Калініна (В. Р. Любушаку), „Даманава" (В. П. Меляшкевічу), імя Чарткова (А. І. Малевічу), „Бальшавік" (І. В. Бахуру), „Любішчыцы" (В. Л. Гарбачыку) аб'яўлены вымовы.

Спасылкі старшыняў на дрэннае надвор'е, недахоп тэхнікі, гаруча-змазачных матэрыялаў, запчастак не прыняты да ўвагі. Відавочна, што ў матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні нарыхтоўкі кармоў цяпер і да канца кампаніі мала што зменіцца. Таму старшыням застаецца спадзявацца толькі на свае арганізатарскія і кіраўніцкія здольнасці. Калі гэтыя здольнасці аб'ёмаў кармоў не прыбавяць, то ў раёне, напэўна, будзе шмат вакантных месцаў кіраўнікоў гаспадарак. Ці стане толькі больш ад гэтага кармоў?

### Пераезд не пазнаць

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Чыгуначны пераезд у райцэнтры па вул. В. Клютка зусім змяніў свой выгляд. Маецца на ўвазе яго праезная частка. Замест тых калдобін, якія тармазілі рух транспарту, тут зроблены насціл са спецыяльнага гумавага матэрыялу, завезенага з Германіі. І каштуе ён не адзін дзесятак мільёнаў рублёў.

Па водгуках аўтамабілістаў, якія ўжо апрабавалі насціл сваімі машынамі, пакрыццё выдатнае і садзейнічае бяспецы руху праз пераезд.



*ЗАЎТРА – ДЗЕНЬ ЧЫГУНАЧНІКА*

## СТУКАЮЦЬ КОЛЫ ВАГОННЫЯ...

***Напярэдадні прафесійнага свята работнікаў чыгуначнага транспарту наш карэспандэнт сустрэўся з начальнікам чыгуначнай станцыі Івацэвічы А. У. ХАЙКО і папрасіў адказаць на некалькі пытанняў.***

**–Анатоль Уладзіміравіч, скажыце, калі ласка, з якім настроем сустракае сваё свята ваш калектыў?**

-Калі сказаць шчыра, то настрой перадсвяточны, прыўзняты. Інакш і не можа быць.

**– І на чым грунтуецца гэты добры настрой?**

– Думаецца, на тым, як мы папрацавалі ў мінулым годзе, чаго ўласна дасягнулі. Калі гаварыць канкрэтна, то калектыў наш выконвае так званыя якасныя вымяральнікі, гэта значыць, выгрузка, пагрузка. Ёсць невялікая эканомія электраэнергіі. Спраўляемся з перавозкай пасажыраў. У прыгарадных цягніках другі год запар ездзіць прыкладна аднолькавая колькасць людзей, а вось у паяздах далёкага накіравання стала іх больш. Калі летась у чэрвені паездкі зрабілі 5326 чалавек, то сёлета за той жа месяц – 6974.

Працаваць без перабояў нам дапамагае высокая тэхнічная аснашчанасць нашай галіны. Чыгунка электрыфікавана і аўтаматызавана, набыты і ўведзены ў карыстанне новыя пераносныя радыёстанцыі. Устаноўлена новая тэхніка і ў білетных касах. Яна выдае касірам патрэбныя дадзеныя ў любую кропку былога Савецкага Саюза (наяўнасць білетаў, іх кошт, на які цягнік і г. д.). Зараз можна адначасова ўзяць, напрыклад, білет у Хабараўск ці Чыту і назад. Пры перасадках білет ужо не патрэбна нідзе кампасціраваць, што раней выклікала нямала цяжкасцей і нязручнасцей. Усё гэта ўжо зроблена разумнай камп'ютэрнай машынай пад назвай „Экспрэс".

І яшчэ. Як вы заўважылі, сам будынак станцыі пахарашэў. З дапамогай упраўлення чыгункі зроблены тут рэканструкцыя і якасны рамонт, што ўвогуле палепшыла ўмовы працы нашых работнікаў. І пасажырам прыемна ўжо зайсці ў залу чаканняў.

**– Вядома, што зробленае – справа рук і розуму ўсяго калектыву чыгуначнікаў. Каго б вы, Анатоль Уладзіміравіч, адзначылі з лепшага боку?**

– Хачу сказаць вялікі дзякуй усім нашым работнікам за іх плённую працу і павіншаваць з наступаючым святам. Кожны з іх сапраўды на сваім месцы, сумленна і прафесійна выконвае свае абавязкі. У ліку аўтарытэтных – і вопытныя, і яшчэ маладыя чыгуначнікі: дыспетчары Наталля Мікалаеўна Фёдарава і Сяргей Канстанцінавіч Машкеўскі, саставіцель паяздоў Мікалай Леанідавіч Сакута, камерцыйны агент станцыі Лідзія Пятроўна Кулак, білетны касір Жанна Уладзіміраўна Яфімовіч, старшы прыёмаздатчык Раіса Сцяпанаўна Канавальчук і многія іншыя.

**– Балючая тэма сёння – заработная плата. Ці ёсць тут у вас, Анатоль Уладзіміравіч, нейкія праблемы?**

– Зарплата ў нас не самая высокая. Хацелася б большай. Праблем з выплатай пакуль што няма. Затрымак амаль не бывае. Да канца бягучага месяца, напрыклад, выдаём аванс, а ў наступным месяцы да яго сярэдзіны ўсе атрымліваюць астатнюю суму зарплаты.

**– Наша краіна перажывае зараз значныя эканамічныя цяжкасці. Скажыце, Анатоль Уладзіміравіч, як адбіваецца гэта на дзейнасці вашага працоўнага калектыву?**

– Сапраўды, цяжка стала працаваць. Па-першае, зменшыўся паток грузаў, менш перавозім, чым гэта было раней. Па-другое, рэзка ўпала плацежаздольнасць прадпрыемстваў і арганізацый, якія карыстаюцца паслугамі чыгункі. Пачалі расці даўгі ў нашых кліентаў, а для нас гэта, як кажуць, смерці падобна. Таму сёлета з паршага чэрвеня за паслугі, якія мы аказваем, уведзена перадаплата. Без яе мы не прыступаем да выканання заказаных перавозак, пагрузак, выгрузак і г. д. Ёсць і іншыя цяжкасці, якія напярэдадні свята не хочацца закранаць. Словам, працуем і спадзяемся на лепшае будучае.

**– Жадаем вам, Анатоль Уладзіміравіч, усім чыгуначнікам працоўных поспехаў, здароўя і шчасця. З наступаючым святам!**

– Дзякую.

**Гутарыў С. КАЖАДУБ.**

**Фота А. ГАНЧУКА.**

*● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ*

## АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

### ДРУГІ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

У рабоце з'езда, які доўжыўся два дні, бралі ўдзел 184 дэлегаты і больш за 600 гасцей з Беларусі, усходняй і заходняй дыяспараў. Прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" ізноў абраны акадэмік Радзім Гарэцкі.

### ЦІ ЗАКОННА НАБЫТЫ КВАТЭРЫ?

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка даручыў супрацоўнікам Камітэта дзяржаўнага кантролю і праваахоўным органам праверыць законнасць набыцця кватэр шэрагам дэпутатаў Нацыянальнага сходу рэспублікі.

### З ДЫРЭКТАРА БЕЛАРУСКАГА ПРАДСТАЎНІЦТВА ГРТ ПАЎЛА ШАРАМЕТА ЗРАБІЛІ ШПІЁНА

Дырэктар Беларускага прадстаўніцтва ГРТ Павел Шарамет, затрыманы ў мінулую суботу супрацоўнікамі праваахоўных органаў па абвінавачанню ў незаконным пераходзе дзяржаўнай граніцы, пераведзены з катэгорыі сведкаў у разрад падазраваемых.

У ходзе вобыску, які супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі правялі ў офісе прадстаўніцтва, былі канфіскаваны матэрыялы, знятыя на ўчастку беларуска–літоўскай граніцы, агульнаграмадзянскі пашпарт Паўла Шарамета і яго акрэдытацыйныя карткі.

### ЛЕПШ ВЫ СТАЛІ ЖЫЦЬ ЦІ НЕ?

Згодна з данымі Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, у параўнанні са снежнем 1996 года цэны на гародніну за шэсць месяцаў узраслі ў 2,5 разы; цукар – у 2 разы; фрукты і маргарын – у 1,6 раза; масла жывёльнае і кандытарскія вырабы – у 1,5 раза; безалкагольныя напіткі – на 48,6 працэнта; муку – на 47,8; хлеб і хлебабулачныя вырабы, мясныя кансервы, масла раслiннае, рыбу, алкагольныя напіткі – на 43–44 працэнты; сыр, каўбасныя і макаронныя вырабы – на 39–41; мяса і птушку, малочныя прадукты, кансервы рыбныя, крупу, каву – на 31–35 працэнтаў.

А на колькі працэнтаў вырасла зарплата? І на колькі працэнтаў павысіліся тарыфы на розныя паслугі?

Параўнайце ўсе лічбы і зрабіце вывад: лепш Вы сталі жыць ці не?

### „ПАДКІДЫШЫ" З ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЫ

Скандал, звязаны са знаходжаннем на адпачынку і лячэнні беларускіх дзяцей з чарнобыльскай зоны, разгарэўся ў Іспаніі. Многія юныя чарнобыльцы, якія прыехалі ў гэтую краіну ў чэрвені, абсалютна здаровыя і ніякіх адносінаў да чарнобыльскай трагедыі не маюць. Больш таго, частка з іх – дзеці даволі заможных бацькоў.

### СУДДЗІ ЎЗБРОЙВАЮЦЦА

Суддзі атрымліваюць у сваё распараджэнне газавыя пісталеты. У нашай краіне каля 900 суддзяў розных узроўняў, і можна сцвярджаць, што на гэта спатрэбілася немалая партыя зброі. У Міністэрстве юстыцыі тлумачаць, што прыйшоў час такім шляхам бараніць „судзейскую недатыкальнасць", бо напады на суддзяў пачасціліся. Газавыя пісталеты выдаюць і высокапастаўленым чыноўнікам Міністэрства юстыцыі.

Астатнія грамадзяне маюць шанц дзеля ўласнай бяспекі набыць газавыя пісталеты ў краме – па цане ад 1,5 да 10 мільёнаў рублёў. Адпаведныя дазволы выдаюць органы ўнутраных спраў.

### ТРАГЕДЫЯ Ў БАРЫСАВЕ

Цела трыццацішасцігадовай З. Карлец, якая дагэтуль працавала кухаркай у вайсковай часці № 42760 г. Барысава, было знойдзена ўвечары. Жанчына звяла рахункі з жыццём, павесіўшыся на дрэве. А за некалькі гадзінаў да гэтага з ракі Сха, якая ўпадае ў Бярэзіну, былі выцягнуты целы дзвюх дачок Зінаіды Карлец – пяцігадовай Вікторыі і васьмігадовай Настассі. Як адзначаецца ў пратаколе міліцыі, слядоў насілля на целах не знойдзена.

**(Па старонках рэспубліканскіх газет).**

# ПА КВЕТКУ ШЧАСЦЯ — З БУТЭЛЬКАЙ?

● НЕРАЎНАДУШНЫ ПОГЛЯД

ДУША чалавека заўсёды прагне свята. Парадаксальна на першы погляд, але менавіта так: чым цяжэй жывецца, чым больш абцяжарваюць праблемы, клопаты, безграшоўе, тым больш хочацца гэтага свята. А калі яно яшчэ мае старадаўнія традыцыі, напоўнена рамантызмам продкаў і арганізоўваецца ўладамі, усяляк стымулюецца імі, заахвочваецца, то рэдкі дзеяздольны чалавек адмовіцца прыняць у ім удзел.

Такіх святаў у нас цяпер шмат. Адно з іх — Купалле. Спыняемся менавіта на ім па адной і адзінай прычыне: было яно нядаўна і след пакінула... балючы.

У Івацэвічах Купалле заўсёды праводзіцца ля ракі ў раёне бальніцы. Дакладней, літаральна пад яе вокнамі. Раней, здаралася, кіраўніцтва бальніцы выказвала незадаволенасць гэтай акалічнасцю, прыводзіла довады аб шкодзе, якая наносіцца хворым, медыкам, якія, бывае, ратуюць непрытомнага ці робяць аперацыю пад гукі развясёлай музыкі і гул велізарнага натоўпу. Ды ўлады пакінулі прэтэнзіі медыкаў без увагі. Якія могуць быць прэтэнзіі, калі народ хоча свята? Дык мо з гэтага міні-канфлікту медыкаў і ўладаў і пачало набываць свята Купалля адценне ўсёдазволенасці, гэткага масавага шабасу пад адкрытым небам?

...Нібы матылі на святло ліхтара, з'язджаюцца, сходзяцца жыхары райцэнтра і амаль усіх населеных пунктаў на магічны бляск вялізных кастроў — загадзя нарыхтаваных, добра складзеных і аблітых салярай ці бензінам. Ідуць і едуць пераважна кампаніямі, нават сем'ямі, нясуць і вязуць з сабою напакаваныя ежай і спіртным сумкі. Зрэшты, неабходнасці ў гэтых сумках вялікай няма: на Купалле аўталаўкі райпо і аб'яднання грамадскага харчавання вязуць усё — ад заляжалых пернікаў да моцных спіртных напояў. Выручка бывае — ого! Сёлета яна дасягнула сумы 144 мільёнаў рублёў, у тым ліку ў Івацэвічах кааператары нагандлявалі на 90 мільёнаў рублёў. І гэта ў той час, калі за цэлы дзень работы агульная выручка ўсіх магазінаў Івацэвіцкага гарпо не перавышае лічбы 250—300 мільёнаў рублёў. Заўважым яшчэ: на Купалле не гандлююць прамысловымі таварамі.

— Вы ведаеце,чым у асноўным гандлявалі на Купалле? — ноткі голасу жанчыны, якая пазваніла нам у рэдакцыю раніцай пасля свята былі яўна напружанымі. — Гарэлкай. Яна лілася ракой, купіць яе можна было і ў кааператараў, і ў гандляроў самагонам (во, каму было раздолле!). А вось кавалка каўбасы прыкусіць гэту гарэлку ніхто не дадумаўся на свята прывезці...

Мы гэта ведалі. Самі былі на свяце, усё бачылі сваімі вачыма.

Мы бачылі, як ужо п'яны чалавек няўграбнай рукою выцягвае з кішэні грошы і падае прадаўшчыцы гарэлкай. Частка паперак падае на зямлю, і іх тут жа са смехам падхоплівае чародка хлапчукоў гадоў 13—15 і знікае ў натоўпе. Прадаўшчыца абыякава глядзіць ім услед і падае п'янаму бутэльку гарэлкі...

Мы бачылі, як хлапчук гадоў 14—15, хістаючыся, брыдзе ў натоўпе і раптам падае на зямлю. Натоўп абходзіць яго нібы бервяно. У хлапчука адкрываецца рвота. І тады нейкая чуллівая жанчына, сама тым не менш, на добрым падпітку, схіляецца над ім.

— Галаву на бок, галаву павярні, — даюць парады такія ж падпіўшыя жанчыны, відаць, з кампаніі чуллівай.

— Нічога, бальніца побач, не памрэ, — гаворыць бадзёра чуллівая, пляскаючы хлапчаня па шчоках...

Мы бачылі, як у танцуючым ля кастра натоўпе моладзі маладая пара спачатку цалавалася, а потым хлапец настойліва пачаў здымаць з каханкі кофтачку... Як у гэтым жа натоўпе раз-пораз падалі, спаткнуўшыся, найбольш падпітыя хлопцы і дзяўчаты...

Мы бачылі, як чацвёра крутых хлопцаў білі такога ж пятага і скідвалі яго ў раку, у ваду, і ён выкараскаўся адтуль на карачках...

Мы бачылі, як п'яная жанчына, хістаючыся, збягала па адкосу з дарогі ля моста, відаць, накіроўваючыся да кастра, але не ўтрымалася і пакацілася ў лужыну, даволі глыбокую ад прайшоўшых дажджоў (дарэчы, у гэтай лужыне пабывала яна не адна). Яе пачалі выцягваць адтуль двое мужчын і, выцягнуўшы, патрабавалі ад пацярпелай, мокрай і запэцканай, бутэльку...

Мы бачылі берагі Грыўды, нібы абвешаныя гірляндамі шматлікіх і рознаўзроставых кампаній, якіх, здаецца, не цікавіла ні выступленні самадзейных артыстаў, вакальна-інструментальных ансамбляў, ні гульні на пляцоўках, спецыяльна абсталяваных для гэтага, ні мульцікі і кіно, якія дэманстраваліся па тэлевізарах, ні песні і музыка, ні танцы... У цэнтры гэтых кампаній, вядома, стаяла бутэлька, дзе з закускай, а дзе і без яе.

— Ведаеце, мне балюча за культработнікаў, — сказала нам мастацкі кіраўнік Івацэвіцкага ГДК Т. Волк. — Колькі сіл, энергіі, таленту і натхнення ўкладваюць яны штогод у мастацка-займальную праграму Купалля. Колькі часу затрачваюць на яе падрыхтоўку. І з якім імпэтам працуюць потым на свяце! Але з кожным годам мы ўсё больш бачым, што наша праграма ўспрымаецца людзьмі як нейкі толькі прыдатак...

— Прыдатак да чаго?

— Не ведаю да чаго. Мо да сустрэчы з сябрамі, роднымі. А мо проста да выпіўкі ля ракі, на ўлонні прыроды. Купалле — рамантычнае старадаўняе свята, напоўненае высокім сэнсам пошукаў шчасця. Ці дарэчы тут выпіўкі?

Мы гаварылі аб Купаллі з многімі культработнікамі, якія адпрацоўвалі займальна-мастацкую праграму на свяце. Іх уражанні былі адназначнымі;

— Такой павальнай п'янкі яшчэ Івацэвічы не бачылі. Дахаты мы вярнуліся з адчуваннем нейкай мярзоты на душы...

Здаецца, перад намі сітуацыя, якая характарызуецца выразам: добрымі намерамі вымашчана дарога ў пекла. Сапраўды, што мы маем: жаданне адсвяткаваць Купалле ў насельніцтва і задавальненне гэтага жадання ўладамі. Калі ласка, людзі: вось вам месца ля ракі, прыходзьце сюды вечарам і на працягу 5—7 гадзінаў спявайце, танцуйце, вяжыце вяночкі і кідайце ў раку, скачыце ля вогнішча. А каб не стаміліся, калі ласка, да вашых паслуг аўталаўкі з ядой і піццём. Гуляйце, людзі!

Людзі гуляюць. А пасля самі ж называюць гэтае гулянне павальнай п'янкай, масавым шабасам.

Але хто дадумаўся да таго, каб на месца вячэрняга і начнога гуляння вялікага мноства людзей (у тым ліку дзяцей і падлеткаў) везці гарэлку і віно, а каўбасу (чым абуралася наша падпісчыца) не везці?

— Дазвол на гандаль спіртнымі напіткамі даў райвыканкам, — паведаміў нам намеснік старшыні Івацэвіцкага райвыканкама У. М. Макар. — Тое, што каўбасы не было, гэта, вядома, дрэнна. Мы разабраліся з гэтым не чакаючы вашага званка (дырэктар райкаапнарыхтпрама П. Пігас атрымаў строгую вымову — **рэд.**) Калі на тое пайшло, то злачынстваў ніякіх на свяце не было (дзякуй Богу, сапраўды абышлося. У мінулым годзе на Купалле прапаў чалавек. Потым яго цела знайшлі ў рацэ — **рэд.**) Я тут бачу іншую праблему: давайце ўявім, што мы перастанем гандляваць гарэлкай. Колькі з'явіцца самагоншчыкаў, якія будуць прапаноўваць людзям свае паслугі і атручваць іх рознымі сурагатамі...

— Але, даруйце, Уладзімір Мікалаевіч, яны і цяпер прапаноўваюць паўсюдна свае паслугі, у тым ліку і на Купаллі. І з вялікім поспехам, як гаворыцца...

— Дык вы што прапаноўваеце?

—Мы даследуем праблему. Мы пытаемся: дазвол гандляваць гарэлкай там, дзе збіраецца амаль палавіна Івацэвічаў — дарослых, моладзі, падлеткаў і дзяцей—нечым апраўданы? Разумны? Маральны, урэшце? І маем на ўвазе не толькі свята Купалля, але і іншыя святы...

— Ды дзе вы бачылі такую ўжо п'янку? Давайце возьмем 2 ліпеня. Мы праводзілі ўрачысты сход у Івацэвіцкім ГДК. Дзе, якая п'янка была? 3 ліпеня — што, шмат п'яных было? Я і вечарам быў, нідзе іх не бачыў. Святкаванні ў Гута-Міхаліне. Калі тут ветэраны па чарцы выпілі, то гэта — п'янка?

— Ну, напэўна, ветэраны выпіваюць сваю сімвалічную чарку. Мы ж не пра такія выпіўкі размову вядзем. Давайце не будзем крывіць душою: возьмем сквер ля Дома Саветаў, у якім у апошні час праводзіцца шмат масавых мерапрыемстваў. Там жа машыны з гарэлкай і віном — нязменны атрыбут святочнасці...

— Ну, што ж, дэбаты тут можна весці вялікія. Але гарэлка існуе — значыць і піць яе будуць. Забаронай цвярозасць не ўсталюеш. Я тут бачу адно выйсце — весці выхаванне людзей. Культуру таго ж піцца выхоўваць...

Сапраўды, дэбаты на ўзнятую тэму можна весці вялікія. Толькі ці трэба змешваць ужыванне гарэлкі наогул і яе ўжыванне ў грамадскіх месцах, якімі з'яўляюцца тыя месцы, дзе праводзяцца святы? Як можна гаварыць аб выхаванні культуры піцця ў насельніцтва і ў той жа час везці гэтаму насельніцтву ў святочны вечар батарэі бутэлек з моцнымі напоямі?

Пытанняў шмат. Ёсць і такое — а хто, уласна кажучы, у нас зможа заняцца выхаваннем культуры піцця? Кааператары, якія вязуць, напрыклад, на Купалле гарэлку і віно?

— Не, гэта не наша функцыя, — з вясёлымі ноткамі ў голасе адказала на наша пытанне інструктар па гандлю Івацэвіцкага райпо С. Я. Суражава. — Наша задача гарэлку прадаваць. А вось усе астатнія задачы павінны вырашаць улады, раённы аддзел адукацыі, саюз моладзі, міліцыя, урэшце...

Так, заўвага слушная. З прадстаўніком улады мы ўжо пагаварылі. Пагаворым тады і з загадчыкам раённага аддзела адукацыі В. М. Басалаем.

— Васіль Мікалаевіч, вы бываеце на свяце Купалля калі-небудзь? Мо сёлета былі?

— Не, не быў, але ўяўленне маю...

— Тады як вы ацэньваеце тое, што ўдзел у гэтым свяце прымае шмат дзяцей і падлеткаў, і яны становяцца не толькі сведкамі той п'янкі, якая там адбываецца, але зачастую і ўдзельнікамі? (як прыклад, гаворым пра п'янага хлапчука).

— Дрэнна ацэньваю. Дарослым там дазваляецца піць. А дзе дарослыя п'юць, там і дзеці далучаюцца. Дрэнна.

— А што рабіць? Што робіць РАА, якія меры прымае, каб неяк спыніць дзяцей і падлеткаў, аберагчы іх ад гарэлкі?

— Што можа аддзел адукацыі... У гэтым годзе ўзялі пад свой кантроль правядзенне выпускных вечароў. Усюды забаранілі застоллі, дзяжурылі па школах, кантралявалі. А на Купаллі, дзе мноства народа, хіба каго пракантралюеш? Мне расказвалі, што там было, нават больш за тое, што вы расказваеце. Тут сям'я ўжо павінна сваіх дзяцей кантраляваць..

— Але ж не сям'я арганізоўвае і праводзіць свята Купалле. Не сям'я прывозіць туды гарэлку і віно. Улады праводзяць, з дазволу ўладаў кааператары гэтым таварам гандлююць. А вы ж таксама пэўнае дачыненне да ўлады маеце: РАА — аддзел райвыканкама...

— Маем. Але ж не мы адны. Там і з саюза моладзі дзяжурылі, і міліцыя. Але як усочыш за кім, калі на гэтым свяце і святла не было. Вы ж ведаеце. Касцёр толькі і гарэў. Калі рыхтуецца мерапрыемства, то трэба, каб там і асвятленне было. Што — не так? А то сабраць увесь горад — як тут за кім прасочыш. У дзяцей жа ёсць грошы — бацькі даюць. Мо нехта з дарослых ім і гарэлку з віном купіў...

— Васіль Мікалаевіч, а вы не ўносілі прапанову ў райвыканкам, каб на Купаллі спіртное не прадавалася?

— Не. Не ўносіў. Але я гаварыў і Макару (Уладзіміру Мікалаевічу — **рэд.**), што прадаваць спіртное ў скверыку, побач з Домам Саветаў, калі тут нешта праводзіцца, таксама не справа. Але, калі не прадаваць, то яны ў сумках прынясуць. Ну, вы ж ведаеце наш народ. Яго ж адразу так не перавыхаваеш. Тут трэба думаць глабальна, як гэтую нацыю ратаваць. Што не так?

— А як яе, нацыю, ратаваць?

— Трэба,каб народ быў заняты.

— Чым?

— Работай. Так, каб быў і на рабоце, і каб культурнаму адпачынку вучыць. Цяпер маладзёжныя саюзы ствараюцца, мо яны возьмуць на сябе гэты клопат. Быў жа вакуум — пяць жа гадоў ніхто з моладдзю не займаўся, ніхто не працаваў акрамя школы...

Чарговая размова з першым сакратаром райкама БПСМ Аляксандрам Глядам.

— Аляксандр, ці быў ты на свяце Купалля?

— Не, на жаль. А што такое?

— Ну, як, там жа шмат моладзі было. А хто-небудзь з вашага ўжо створанага саюза (БПСМ) там прысутнічаў?

— Вядома. Шмат было членаў нашага саюза.

— Вы цікавіліся той атмасферай, якая там была, узроўнем праводзімых мерапрыемстваў...

— Канечне.

— І якая твая ацэнка?

— Станоўчая.

— А што там было шмат п'яных, у тым ліку моладзі?

— О, да гэтага адношуся адмоўна.

Аляксандр Гляд далей выказаўся ў тым сэнсе, што створаны БПСМ яшчэ малады, перажывае арганізацыйны перыяд. Саюз падтрымліваецца дзяржавай, да канца года райкаму БПСМ выдзелена недзе каля 100 мільёнаў рублёў. Аляксандр выказаў упэўненасць, што саюзу ўдасца вырашыць усе задачы, у тым ліку і ў плане барацьбы з п'янствам.

— Але ж камсамол, папярэднік БПСМ, займаўся выхаваннем моладзі дзесяткі гадоў і... сёння мы маем тое, што маем. Ці не атрымаецца так, што дзяржава дарма затраціць грошы і на БПСМ?

— Не атрымаецца. У мяне ёсць упэўненасць, што наш саюз павядзе за сабою моладзь...

Упэўненасць у справе, за якую бярэшся, — гэта добра. Толькі, каб не аказалася яна чарговай упэўненасцю камсамольскага кшталту. Кіраўнікі ВЛКСМ, як вядома, ніколі адсутнасцю самаўпэўненасці не пакутавалі. Тым не менш, радавыя члены гэтай арганізацыі шмат рабілі клопатаў і бацькам, і работнікам міліцыі.

Не абышліся і мы без размовы з работнікамі міліцыі. І ў іх мы высвятлялі адносіны да правядзення масавых мерапрыемстваў з гарэлкай.

— Ды гэта адназначна, што на такіх мерапрыемствах узнікае крымінагенная абстаноўка. Мы неаднаразова папярэджвалі аб гэтым мясцовыя ўлады. Але нам адказалі, што мы — вартавыя парадку і павінны выконваць свой абавязак. А думаць пра тое, прадаваць ці не прадаваць гарэлку на святах, на тым жа Купаллі, будуць іншыя. Відавочна, пытанне гэта ўжо палітычнае...

Той, хто нам гэта сказаў, пажадаў захаваць сваё інкогніта. Вядома, за такія словы па службе не павысяць, па галоўцы не пагладзяць. А мы ж — беларусы. Мы не любім любыя канфлікты, тым больш з начальствам. Мы любім верыць гэтаму начальству. Мы верым, калі нам гавораць, што заводы нашы пачалі выпускаць больш прадукцыі і не заўважаем, што гэтая прадукцыя ляжыць на складах, бо ў нас няма грошай, каб яе купляць. Мы верым, што зарплата наша расце і расце і не заўважаем, як расце інфляцыя.

Нам паўсюдна ўнушаецца, што ў нас усё добра. Што нават Чарнобыль і ўраган нам „нипочем". Але ж чаму нам так настойліва прапануюць выпіць — на сустрэчах з ветэранамі, моладдзю, на маёўках і на святах, якія збіраюць сотні людзей? Чаму нават рамантычнае свята Купалля, дзе людзі павінны шукаць кветку шчасця, заліваецца літаральна гарэлкай? Няўжо незразумела, што п'яны чалавек ды яшчэ з бутэлькай у руках не толькі не знойдзе кветкі шчасця, але і апошнюю долю страціць ды розум...

Мо таму, што п'яны па-сапраўднаму не ацэніць, не прааналізуе ўсяго таго, што адбываецца навокал? Мо таму, што лягчэй нас напаіць, чым пракарміць, абуць, апрануць, даць жыллё і дастойнае чалавека жыццё? Мо таму, што п'яны ніколі не будзе гаспадаром, што ім лёгка ўпраўляць? П'яны — раб не толькі сваёй згубнай звычкі. Ён — раб тых, хто пастаўляе яму віно і гарэлку. Як сведчаць дадзеныя міністэрства статыстыкі і аналізу, за сёлетнія паўгода выраб лікёра-гарэлачных напояў у Беларусі павялічыўся на 112%, а пладова-ягадных вінаў — на 63%. Алкагольная вытворчасць зварыла для нас з вамі 3.680 тысяч літраў гарэлкі і лікёраў, 520 тысяч літраў каньяку, 54.040 тысяч літраў пладовых вінаў. Вытворчасць алкаголю —сёння ці не самы прыбытковы бізнес. Ім займаецца дзяржава нягледзячы на тое, што алкаголь становіцца галоўнай пагрозай для здароўя вялікай колькасці нашых грамадзян.

І яшчэ. Мы свядома пакінулі амаль без каментарыяў выказванні нашых субяседнікаў — дзяржаўных чыноўнікаў, закліканых клапаціцца аб маральным і фізічным здароўі людзей — дзяцей і дарослых. Мы не думаем, што яны, гаворачы аб глабальнасці праблемы барацьбы з п'янствам, выратаванні нацыі ад алкаголю, не разумеюць, што гэтае выратаванне, як любая іншая справа, павінна пачынацца з малых, канкрэтных крокаў. Напрыклад, правядзенні таго ж свята Купалля без віна і гарэлкі. Разумеюць. Тады чаго ж так гавораць? А чаму нам 70 з лішнім гадоў гаварылі пра зямны рай — камунізм і не заўважалі ні духоўнай спустошанасці, ні матэрыяльнай беднасці пакаленняў?

Л. ЦАЛУЙКА.

● ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# Святкавалі пажарныя

Дзеці, стаўшы ў кола на плошчы ля Дома Саветаў, бесклапотна гулялі, разгадвалі загадкі, атрымлівалі з рук метадыстаў Івацэвіцкага ГДК Валянціны Кулецкай і Ірыны Дука прызы. Весялосць і радасць панавалі сярод малышоў. І раптам – чорныя клубы дыму. Пажар!

– Дзеці, што ж нам рабіць? – неяк разгублена спытала Валянціна Пятроўна.

– Трэба выклікаць па 01 пажарных – хорам адказвае дзятва.

– Давайце выклічам.

Па рацыі паведамляецца аб бядзе ў пажарную часць. Праз некалькі мінут пажарныя машыны з мігалкамі і сірэнай з'яўлюцца на плошчы. Агню не стае.

Вось з такога ўступу пачалося святкаванне Дня пажарнай службы ў мінулую нядзелю. Праўда, свята для пажарных – паняцце адноснае. Бяда не выбірае выхадных і будзённых дзён. Яна можа прыйсці ў любы момант. Таму ніколі не прыпыняецца дзяжурства службы 01. Аб гэтым гаварыў начальнік дзяржпажнагляду Івацэвіцкага атрада ваенізаванай пажарнай службы Васіль Бацкалевіч, гаварыў таксама пра работу атрада і пажарную абстаноўку ў раёне.

Пасля яго мегафон узяў старшы памочнік начальніка штаба пажаратушэння атрада ВПС Юрый Журомскі. Як уважлівы гід, ён паказаў тэхніку і прылады, што выкарыстоўваюцца для тушэння агню, растлумачыў прынцыпы работы. Яго калегі па ходу расказа дэманстравалі тэхніку і сваё ўзбраенне ў дзеянні, паказалі, як ратуюць людзей у шматпавярховых дамах, як карыстацца вогнетушыцелямі, як тушаць вадой і пенай ачагі загарання.

Найвялікшая радасць – дзіцячая. Трэба было бачыць, з якім віскам дзеці распрысквалі пену, што тушаць агонь, як качаліся ў ёй. Быццам тыя іншапланецяне, бегалі яны вакол фантана.

Дзеці аказаліся самымі цікаўнымі гледачамі: яны прымервалі маскі пажарных, мацалі іх спецадзенне, ахвотна лезлі ў кабіны, каб пакатацца з мужнымі хлопцамі.

Нярэдка можна пачуць пра хлопцаў– пажарнікаў розныя байкі. Але калі здараецца бяда, мы ўсе чакаем ад іх дапамогі. Што б там ні гаварылі, яны заслужылі пашану і ўдзячнасць людзей. Няхай паболей будзе ў іх спакойных хвілінаў.

А. ЛАЎРАНЮК.

● БИБЛИЮ ЧИТАЕМ ВМЕСТЕ

# КТО НЕ СО МНОЮ, ТОТ ПРОТИВ МЕНЯ

**(ЕВАНГЕЛИЕ ОТ ЛУКИ,II ГЛАВА).**

**(Продолжение. Начало в №№ 3–33).**

О молитве „Отче наш" мы уже рассуждали в предыдущих главах. Будем лишь помнить, что иудеи никогда не произносили вслух имя Бога. По закону Моисея упоминать имя Господа в суете было недопустимо. Перестраховывая себя, евреи вообще не упоминали его. Иисус же учил учеников называть Бога Отцом! То есть, самым близким и дорогим существом, да ещё осознавать Его – Творца мироздания, родственным нам, людям.

Любой любящий отец желает обеспечить, научить, наставить своего ребенка. Любой отец пожертвует всем самым дорогим ради него. Бог тем более. У него нет преград. Только представьте, какую привилегию имеет послушный христианин. Почему же не все и далеко не всегда получают ответы на свои молитвы? Давайте немного поразмышляем над историей, рассказанной Иисусом о настойчивом человеке, просящим у друга помощи. Во-первых, проситель знал, что у друга есть хлеб. Во-вторых, просящий не просил неразумное. Он даже намеревался вернуть полученное, значит трезво оценивал необходимость и размеры просимого. В-третьих, он просил не только ради себя. Он не был эгоистом, но старался сделать добро для других. В-четвертых, он знал, что сосед даст просимое. Сложите все это вместе, поразмыслите и подумайте над тем, какой бывает правильная молитва. Так же помните, ведь вы сами, даже будучи людьми грешными, стараетесь дать своим детям нужное и просимое ими. Бог всегда дает нам необходимое, правда, мы не всегда соглашаемся с Его ответом, но терпение и время показывают нам безошибочность Божиего ответа на молитву. Нужно быть не капризными детьми, требующими сиюминутного ответа, а терпеливыми и ожидающими, не меняющими желаний каждые пять минут. Поэтому необходимо обдумывать прошение, точно знать его полезность для себя и других, верить в то, что Бог даст потому, что имеет это и хочет ответить в нужное для вас время.

Изгнание беса из одержимого немого очень поучительно. Ненапрасно евангелист Лука повествует это сразу же после описания учения о молитве. Тот, кто был нем для Бога, но соприкоснулся с Иисусом Христом, обязательно заговорит. Молитва – это потребность всякого истинного христианина, это его дыхание, без которого он не может жить. Если вы не молитесь, не любите молитву, не понимаете её силу – вы просто не христианин. Вы еще не знаете ничего о Христе, Его Воскресении, прощении ради имени Его всех ваших грехов и скорого вашего прихода к Отцу на Небеса. Значит в вашем сердце еще живет бес немой (неверие). Придите к Иисусу. Узнайте о Нем, и вы страстно полюбите молиться.

Стихи с 14 по 26 посвящены описанию великой силы Божией. Сегодня существует множество религий и сект. Сегодня люди прямо или косвенно поклоняются не Иисусу Христу, а сатане. Многие говорят, что им никто не в силах уже помочь, дескать все потеряно. Великое заблуждение. Не смотрите на греховность гибнущего в оковах сатаны мира. Верно, диавол обладает гигантской силой, но Сам Иисус говорит, что придет, отберет оружие и отнимет награбленное князем тьмы. Сатана обладает над нами властью только до той поры, пока мы не пришли к Иисусу и не стали молиться. Молитва – это обращение, призыв, прошение помощи (помните историю о просящем хлеба в начале II главы?) Просите, стучите, верьте и получите.

Необходимо помнить, что, если молитва связывает сатану и освобождает сердце, то этого еще не достаточно. Сердце должно быть заполнено словом Божиим. Нечистый дух не раз возвращается на то место, откуда его выгнали. Даже люди не могут долго согласиться с поражением, тем более – диавол. Например, если вы искренне молились и настойчиво просили у Бога победить грех пьянства и победили, то нужно стараться как можно больше изучать слово Божие, поведение Христа – в Нем образец для подражания, ведь Он Сам Бог во плоти. А познавая добро и зло, необходимо спешить делать добро. Это тот случай, где нужно спешить. Тогда вернувшемуся сатане в образе ваших „друзей" прошлого пьяного существования будет нечего делать.

Ст. 27–28. Слава принадлежит только Богу. Когда человек получает ответ на молитву и побеждает с Божией помощью зло, то самый страшный подводный камень – посчитать себя героем. Никто без Бога не может иметь победы, значит и слава только Богу! Женщина воздала славу Марии – матери Христа, но Иисус, любящий мать, но точно знавший, что Мария только человек и блаженство получает только повинующийся Богу, исправил ошибку женщины.

Ст. 33–36. Свеча и светильник. Свеча ставится высоко и должна освещать всех, кто входит в помещение. Так и каждый христианин. Он либо светит, либо не является христианином. Проверьте себя, светите ли вы светом людям? Светильник нужен для того, чтобы так же освещать. Око – наш светильник. Если свеча светит всем, то светильник ставили для индивидуальных нужд. Например, когда женщина пряла или шила. К чему приставлялся светильник, то и освещал. Так и наше око, на что мы его направляем, то и привлекает наше внимание, то и важно для нас, то и живет внутри нас. Представьте, что вы спустились с фонариком в темный подвал. Наводя фонарик на предметы, вы ищите необходимый. Когда же находите, то держите его в поле освещения пока не возьмете в руки. Итак, на что вы направляете свои душевные очи (ваши желания), то и есть в вашем внутреннем человеке. Проверьте, о чем вы думаете и мечтаете.

До конца главы Иисус обличает тех, кто только внешне благочестив. Иисус сравнивает таких людей с гробом. Гроб украшали сверху, но внутри мертвец и запах разлагающегося трупа – вот что было сущностью гроба. Так и Бог смотрит не только на наш внешний вид, но открывает нас и видит изнутри. Священники иудеи придумывали обряды и законы для того, чтобы не трогать сути человеческого внутреннего естества. Не каждый может придти в храм помолиться (скажем, серьезно болен), но каждый должен быть внутренне чист, так как на его сердце смотрит Господь. Иисус осудил тех священников, которые не заботились о душах своих и тех, кто приходил к ним. „Горе вам" – говорит таковым Господь, тем, которые стали препятствием не только себе, но и другим людям. Ст. 54 говорит о той разнице, какая была между учениками, просившими Господа научить их молиться, и отвергшими Иисуса по сути, которые на самом деле были не верующими, но только и искали, чтобы убить Сына Божия. Кто не с Иисусом, тот против Него.

**С любовью к Вам – священнослужитель Ивацевичской Церкви „Рождества Христова" КОНСТАНТИН.**

(Продолжение следует).

● АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Аднаразовая дапамога

***– Чула, што дзяржава збіраецца аказаць матэрыяльную дапамогу сем'ям, у якіх трое і больш дзяцей. Ці праўда гэта?***

***Л. ДЫЛЬКО (г. Косава).***

*1 ліпеня Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь прыняты ўказ, у другім пункце якога гаворыцца: „Мясцовым выканаўчым і распарадчым органам аказаць аднаразовую грашовую дапамогу сем'ям, якія маюць траіх і больш дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў, у памеры 600 тысяч рублёў на дзіця – вучня агульнаадукацыйнай школы любога тыпу (за выключэннем дзяцей, якія знаходзяцца ў інтэрнатных установах – дамах дзіцяці, дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах усіх тыпаў).*

*Варта адзначыць, што аднаразовая грашовая дапамога выплачваецца многадзетным сем'ям толькі ў тым выпадку, калі сукупны даход на члена сям'і ў месяц за першы квартал 1997 года склаў не больш чым 893.068 рублёў.*

*Сем'і, якія маюць права на дапамогу, заяву з усімі неабходнымі дакументамі падаюць у сельскі Савет (жыхары райцэнтра – у аддзел сацыяльнай абароны). Падаюцца: заява аднаго з бацькоў, даведка аб заработнай плаце і іншых даходах бацькоў за першы квартал 1997 года, даведка з месца жыхарства аб складзе сям'і, даведка пэўнай навучальнай установы.*

*Пры неабходнасці можа быць праведзена абследаванне матэрыяльнага становішча сям'і. У асобных выпадках замест выплаты аднаразовай грашовай дапамогі сям'і выдаюцца адзенне, абутак, школьныя прылады і падручнікі на ўказаную суму.*

*Выплата названай дапамогі вядзецца два месяцы – з 1 ліпеня па 1 верасня 1997 года.*

● КРЫМІНАЛ

# Везлі дамы багаж

На станцыі Баранавічы–Цэнтральныя нарад патрульна–паставой службы транспартнай міліцыі выявіў дзве безгаспадарныя сумкі, у якіх ляжала 26 кілаграмаў макавай саломкі. За справу ўзяліся супрацоўнікі аддзела па барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў і крымінальнага вышуку Баранавіцкага аддзела ўнутраных спраў на транспарце. Яны ўстанавілі і затрымалі разявак – гаспадынь. Імі аказаліся дзве тутэйшыя непрацуючыя маладыя жанчыны: адна – гаражанка, другая – жыхарка вёскі Русіна. Макавую саломку яны везлі з Украіны ў Смаленск для продажу.

**(Наш кар.).**

● СТОП–КАДР



*Загуменне.* *Фота А. ГАНЧУКА.*

# Па віне дзяцей

Надвячоркам загарэўся гараж аднаго з жыхароў Івацэвічаў. На наступны дзень зашугала полымя пажару на падворку жыхара в. Вялікая Гаць, дзе згарэў стог сена. У абодвух выпадках прычына адна: дзіцячае свавольства з агнём.

**В. МОЛАШ.**



**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.**

**Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.**

**Падпісана да друку 31 ліпеня ў 14.00.**

Заснавальнікі: У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.

Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.

Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.



*Тыраж 1200 экз.*
*Заказ № 1742*